Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошаў

№ 27—(67). Вільня, 11 жніўня 1928 году. Год II.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ



Wilno
ul. Świętojańska 9
na „Przegląd Wileński"

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Зьезд легіяністаў у Вільні.

12 жніўня адбудзецца гадавы зьезд вайсковых, быўшых жаўнераў і ахвіцэраў першых польскіх аддзелаў, пачынаючы ад 1914 г. аж да 1917 г., г. зв. легіяністаў.

6 жніўня 1914 г. Польшча прыняла ўдзел у вялікай вайне, як неафіцыяльны яшчэ ўчасьнік вялікага гістарычнага акту. Гэніяльны сын нашае зямлі, Язэп Пілсудскі, тады яшчэ не Маршалак, не Начальнік Дзяржавы, зрэалізаваў імкненьні найлепшых сыноў Польшчы, найвялікшых волатаў думкі польскай і ўрэшце пачаў праводзіць у жыцьцё сваю праграму — аружнага змаганьня за вольнасьць народу сіламі-ж народу, верачы, што ў выніку вялікае вайны ўваскросне Незалежная Польшча.

6 жніўня 1914 г., калі з Кракава выступіў на фронт пад начальствам Пілсудскага першы польскі аддзел, споўнілася прарочае прадсказаньне другога вялікага сына нашых земляў Адама Міцкевіча, які незалежнасьць Польшчы відзеў прарочымі вачамі ў выніку вайны на польскіх абшарах.

6 жніўня 1914 г. вышла невялікая жменя польскага войска, пад польскім сьцягам і камандай у бітву з ворагамі Польшчы за права жыцьця народу.

Ад таго дня Язэп Пілсудскі стаўся дудуховым амбасадарам Польшчы, павадыром яе найлепшых сыноў, і ўасабленьнем найвялікшых дзяржаўных і людзкіх ідэалаў.

Першыя легіяновыя аддзелы, г. зв. першая брыгада, узяла лёс народу ў свае рукі і пад кіраўніцтвам сына беларуска-літоўскіх земляў пачала адбудову Незалежнасьці Народу сваім жыцьцём, крывёю і ахвярамі.

Як ахвярнікі ідэалу незалежнасьці кінулі на аўтар гэтага ідэалу ўсе свае сілы і жыцьцё, ішлі доўгі час адныя, мала зразумелыя грамадзянствам, прывыкшым да няволі і загіпнатызаваным паказною сілаю ворагаў Польшчы—Расеі, Нямеччыны і Аўстрыі.

Але сіла ідэалу расла і ўрэшце перамагла. Гістарычная справядлівасьць, адкупленая крывёю ўсіх папярэдніх змагароў за вольнасьць Польшчы і ахвярнасьцю легіёнаў 1914, 1915 і 1916 гадоў разьбіла гэтую паказную сілу пагромшчыкаў незалежнасьці народу і ўваскрасіла Польшчу.

У 1918 г. павадыр першае кадравае дружыны Язэп Пілсудскі абымае кіраўніцтва ўсімі справамі народу, як Начальнік Незалежнае Дзяржавы. Астаючыся духовым кіраўніком народу, ён становіцца афіцыяльным яе павадыром.

Ахвяры жыцьця і крыві тых, што ў жніўні 1914 г. вышлі ў бой за незалежнасьць, не аказаліся дарэмнымі. Ідэал перамог усе перашкоды.

У 1919 г. легіёны прыйшлі на беларускія землі, нясучы ўсяму беларускаму народу надзею на вызваленьне з-пад маскоўскага ўціску, нясучы лёзунгі братэрства і згоднага сужыцьця з польскім народам „як вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі". Так загаварыў да ўсіх беларусаў Начальнік Польскае Рэспублікі, Язэп Пілсудскі ў адозве да народаў беларуска-літоўскіх земляў у 1919 г.

Беларусы з хлебам і соляй, з гарачым і шчырым сэрцам віталі легіёны, якія ратавалі край, і маемасьць, і жыцьцё кожнага ад гвалту дзікіх бальшавіцкіх ватагаў.

Беларусы ўсе без вынятку з аткрытым сэрцам прынялі руку найлепшых сыноў Польшчы і шчыра жадалі і верылі ў сваё нацыянальнае і палітычнае адраджэньне, ідучы разам з Польшчай.

Сталася інакш. Сама ідэя „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“, якую падняў высока беларускі змагар за волю, Кастусь Каліноўскі, ня сустрэла прыхільнікаў у той частцы польскага грамадзянства, якое некалі крыва глядзела на акцыю легіёнаў.

Значэньне і ўплывы легіёнавай ідэолёгіі на бег дзяржаўных справаў Польшчы і земляў беларускіх малела. Легіяністы са сваім павадыром выкоўвалі граніцы ў вайне, а на бег унутранае палітыкі пачалі дзеяць тыя польскія сілы, якія былі ворагамі легіёнавых ідэалаў.

Найвялікшы сын народу, будаўнічы яго незалежнасьці, мусяў адыйсьці ў зацішша сямейнага дому.

І толькі ў маі 1926 г., калі правакацыя варожых легіёнавым ідэалам групаў польскага грамадзянства і палітыканаў, пачала грэзіць жыцьцю дзяржавы, ізноў падняў голас Маршалак Пілсудскі, каб узяць справы народу ў свае моцныя рукі. Яны і дагэтуль дзеюць у прабегу жыцьця дзяржавы.

Дзеля гэтага зьезд 1928 г. ў Вільні ізноў варочае нашыя думкі і спадзяваньні да віленскае адозвы 1919 г. да лёзунгу: „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“.

Мы верым у зьдзейсьненьне іх, бо гэтага вымагае тая самая справядлівасьць гісторыі, якая вярнула незалежнасьць братняму Польскаму Народу.

---

## Аб радыё і пагодзе.

Маем вельмі халоднае лета. Усе палявыя работы спозьнены, ужо прайшло сьв. Ганны. а яшчэ ня зжата жыта, яшчэ далёка да зборкі ярыны. Ужо восень надходзіць, а жніва, летняя работа яшчэ ня кончана. Дзэля халадоў не ўдалася гародніна, гуркі хіба ўжо не пасьпеюць вырасьці, каб і пацяплела. Сонца паказваецца рэдка, веюць халодныя ветры і шмат падае дажджу.

Людзі, расьліны і жывёла спрагнены сонца і цяпла.

І вось, калі сёлета гэтага сонца так мала стараюцца людзі знайсьці прычыну, дзеля чаго маем такое халоднае лета, якога даўно ня было на нашых землях.

А як кажуць, „дахтароў“ і „астраномаў“ ў нас найбольш, дык многа розных прычынаў выходзяць, але аднак найчасьцей можна чуць, быццам вінавата ў гэтым радыё.

Амаль што ўсюды можна чуць, быццам радыё выклікала халодныя ветры, частыя дажджы і буры. Быццам гэта радыё закрыла хмарамі ад нас сонца.

Такі пагляд нямае ніякае слушнасьці, ён зусім беспадстаўны, фальшывы і шкодны для жыцьця і культуры нашае вёскі.

Што такое радыё? Радыё гэта спосаб перадачы гукаў пры помачы электра-магнітных хваляў паветра без дроту.

---

## Якуб Колас — пяюн беларускае прыроды.

(Гл. № 26 „Б. Д.“).

Аснаўны характар малюнку прыроды Коласам зусім адпавядае характару апісванага об‘екту. Будзе ім мягкасьць тонаў. З гэтай рысай вяжацца форма яго вершаў. Яны лёгкія, мілагучныя і музыкальныя. Побач з гэтай мягкасьцю вершаў Коласа, яны багаты абразамі. Гэтая сакавітасьць абразоў на гэтулькі сільная, што, чытаючы коласаўскія малюнкі прыроды, заўсёды бачым усё, што ён апісвае. Гэтая сіла ілюзіі гаворыць нам аб сіле таленту і мастацкасьці поэзіі Коласа.

„Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасьць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прykованы я?
К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя смутку красы.
Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд!
Песьні цягучыя, песьні пакутныя,
Бачу і чую вас тут“,

— так гаворыць поэт у вершы, пісаным з вастрогу.

„Чуецца говар мне сьпелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага гоман шчасьлівы,
Песьня магутных дубоў“

— вось што супакойвала душу і сэрца поэта, пасаджанага царскім сатрапамі і „праведным судом“ за акцыю на карысьць права вучыць беларускіх дзетак у матчынай, беларускай мове. І праз усю жыцьцёвую дарогу абразы роднага краю, сьпеў дубоў і говар коласоў нівы будуць супакойваць поэта, бо ён кажа:

„Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе ня маю сілы!
Ня раз утомлены дарогай,
Жыцьцём вясны мае убогай,
К табе у думках залятаю,
І там душою спачываю.
„О край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,

Хвалі гэтыя не такія, як хвалі вады. Гэта значыць, калі радыёвая надаўчая станцыя падае ў паветра ці то музыку, ці лекцыю, ці якія небудзь навіны, дык яна не пасылае паветра ад сябе ў той, ці іншы бок; не, гэнае паветра астаецца на месцы, яго ніякая радыёвая сіла ня здоляе выслаць ў пажаданым напрамку. Пры надаваньні гукаў па радыю паяўляецца электра-магнітная хваля, якая, астаючыся на месцы, вызывае пэўныя дрыжаньні ў высокіх паветраных сфэрах, дзе многа электрычнасьці і дзякуючы гэтым дрыжаньням паветранае электрычнасьці можна чуць за сотні і тысячы вярстоў цераз радыёвы апарат людзкія гукі.

Радыё ня вытварае электрычнасьці на стольска, каб яна магла ўнесьці нейкія зьмены ў клімат.

Праўда, надаўчыя станцыі, якіх ня так ужо многа (у Польшчы толькі 5) працуюць электрычнай энэргіяй. Але ўсе гэтыя радыёвыя станцыі так мала даюць новае электрычнасьці для паветра, што яна ня можа мець ніякага значэньня. Сілу гэтае электрычнае энэргіі, якая вырабляецца радыёвымі станцыямі ўсяго сьвета, узятую ў параўнаньні да электрычнасьці, якая знаходзіцца заўсёды ў высокіх слаёх паветра і панад ім, можна параўняць да сілы вядра вады, вылітага ў глыбокае возера, ці раку. Таксама, як гэнае вядро вады ня здоляе ў нічым зьмяніць карысьці, ці шкоднасьці бегу вады, не павялічыць яе на столькі, каб гэтае возера пачало раптам прынасіць шкоду людзям, так сама нічога новага ня ўносяць радыёвыя станцыі ў акружаючую нашую зямлю атмасфэру і вышэйшыя слаі, якія знаходзяцца над атмасфэрай, дзе ўжо няма паветра.

У гэтых высокіх слаёх над атмасфэрай, гэтак вярстоў 10 над зямлёю і нават у высокіх слаёх атмасфэры, знаходзіцца заўсёды вельмі многа электрычнасьці. Яе сіла і моц вельмі вялікая, у многа-многа разоў большая, ніж сіла ўсяе электрычнасьці, якою карыстаюцца людзі на ўсім сьвеце, вырабляючы яе для сваіх мэтаў, як вельмі патрэбную рэч.

Сіла тае электрычнасьці, якая вызывае маланку і пярун, у многа сотняў тысяч разоў большая, ніж электрычная энэргія вельмі сільнай радыёвай станцыі.

І ўсе разам узятыя радыёвыя надаўчыя станцыі, што вырабляюць электрычнасьць для свае работы і ею карыстаюцца, ня могуць зьмяніць дзеяньня электрычнасьці паветранай, так сама як ня можа ў нічым зьмяніць дзеяньня мора, ці возера ўлітая туды капля вады.

Радыё працуе ня толькі ў 1928 г. Ужо многа гадоў, каля 10 наймянш, людзі карыстаюцца з дабрадзейства радые. Але возьмем убеглы год з цёплым летам. То-ж і тады было столькі сама радыёвых станцыяў, як і ў 1928 г. і яны таксама працавалі.

Радыё вельмі карысны вынаход. Ягоная карысьць не паддаецца ніякаму аблічэньню. Цяпер без радыя нельга сабе прадставіць жыцьця нашага сьвету. Але яшчэ больш карысьці дасьць радыё ў прышласьці, калі яно стане даступным кожнаму, калі вельмі танна будзе каштаваць установка апарату і калі радыёвы апарат будзе ў кожнай сялянскай хаце.

Радыё заменіць у прышласьці газэту і кніжку. Асабліва прынясе яно карысьць земляробу, бо цераз радыё можа ён ведаць, якая будзе пагода ў наступны, бліжэйшы дзень, а таксама можа навучыцца, як найлепш абрабляць поле, бо цераз радыё чытаюцца лекцыі аб гаспадарцы, аб управе зямлі, аб гадоўлі жывёлы і т. п.

Праз радыё даведваецца чалавек у самым глухім куце, што дзеіцца на сьвеце, якія цэны на прадукты і г. д.

Якая-ж прычына зьмены клімату тады? Гэтых прычынаў шмат, але толькі нічога тут ня вінавата радыё. Хай гета кожны зразумее і другому вытлумачыць. Цяпер у нас сякуць лясы, і калі

---

Нівы гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы,
Ад'значаюць гожа пуць?
Край мой родны, дзе-ж у сьвеце
Край другі такі знайсьці? —

— такія словы гаворыць любоўнае сэрца поэта на ўспамін аб родным краі, які для Коласа прадстаўляецца ў вобразе рэчак, бароў, ніваў, балотаў безгранічнага прастору, грэчкавых палосак і бярозных шляхоў. І гэтае свае ўкаханьне — родную прыроду апісвае з любоўю Колас.

Уся прырода знайшла ў гэтым верным сыне сваім водклік, усе пары году — вясна, лета, восень і зіма, дзень і ноч, усе праявы прыроды ў кожную пару году і дня, усё, што жыве, расьце і цьвіце, дае поэту натхненьне і гаворыць яго вуснамі. Прырода ў словах Коласа жывая, думаючая і поўная значэньня. Яна блізкая чалавеку, яна жыве і думае разам з гэтым чалавекам, яе найбліжэйшым наглядчыкам і братам, селянінам.

„Елка ў пары з хваіною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час каханьня,
Ў апошні вечар расставаньня".

„А хвоі, елкі векавыя,
Пад зыкі песень маладыя,
Маўчком стаялі ў нейкай думе,
І ў іх ціхусенечкім шуме
Няслось вячэрняе маленьне".

„А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліс,
Таёмна з хвоямі шапталісь".

Так гаворыць поэт аб найчасьцейшых нашых дрэвах — хвоі і ёлцы, якія „абнімаюць", „маўчаць", „шэпчуцца" — словам жывуць сваім асаблівым жыцьцём, зразумелым душы таго, хто ўвесь свой век праводзіць з імі — селяніну беларусу, ды ці толькі беларусу?

Поэт ужывае такіх прыгожых параўнаньняў, даючы жыцьцё прыродзе, укладаючы ў яе душу і чуцьцё, што перад чытачом паяўляецца жывы знаёмы абраз, які прамаўляе да нашага сэрца, бо сам поэт, ажывае душою пры гэтым апісаньні.

зьменшыцца абшар лесу ў краі, напэўна клімат будзе іншы, больш сухі і халодны. Вельмі часта прычынаю холаду зьяўляюцца паўночныя ветры, якія веюць здалёку ад халоднай поўначы. У гэтым годзе, напр., вельмі далёка на поўдзень пасунуліся аграмадныя плывучыя абшары лёду, якія звычайна былі далей на поўначы ў паўночным халодным моры. Можа мець уплыў на клімат сонца, дзе таксама здараюцца нейкія зьмены, але толькі ніякага ўплыву на холад і цяпло, сырасьць і сушу ня мае радыё.

## Адозва Беларускага Студэнскага Саюзу ў Вільні.

### Да сяброў валасных і павятовых самаўрадаў.

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу з мэтай ўзаемадапамогі незаможным беларускім студэнтам у канцы 1927 і пачатку 28 году зьвярнуўся да ўсіх самаўрадаў беларускіх земляў пад Польшчаю з просьбаю матар'яльнае дапамогі для беларускага студэнства.

У хуткім часе пасьля гэтага звароту ад некаторых самаўрадаў атрымалі адказы, ці то адмоўные, ці з паведамленьнем аб вызначэньні пэўных субсыдыяў.

Ад большасьці самаўрадаў аднак мы не атрымалі ніякіх адказаў, але з прыватных крыніцаў даведываемся, што некаторыя самаўрады, пераважна Наваградзкага ваяводзтва, з нядаўшых нам ніякага адказу на нашыя просьбы, высыгнавалі пэўны лік грошаў на вышэйпадазеныя мэты, але правядзеньню ў жыцьцё гэтых пастановаў стаяць на перашкодзе павятовыя соймікі адносных самаўрадаў, ці, інакш кажучы, не зацьвярджаюць пастановаў валасных радаў аб дапамозе для беларускага студэнства.

У зьвязку з гэтым ласкава просім Валасныя Рады, або паасобных сяброў Валасных Радаў, якія ўхвалілі пэўныя субсыдыі для Беларускага Студэнскага Саюзу, паведаміць нас у якнайхутчэйшым часе аб наступным:

1) Які самаўрад, калі і колькі асыгнаваў для Б. С. Саюзу.

2) Дзеля якой прычыны дагэтуль ня споўнена пастанова.

Атрымаўшы такія дадзеныя, Беларускі Студэнскі Саюз будзе ад сябе вясьці адпаведныя стараньні аб правядзеньні ў жыцьцё пастановы таго ці іншага самаўраду адносна нашае просьбы.

Паведамляць нас аб гэтым просім якнайхутчэй, і найлепш было б спосабам афіцыяльным ад імя Валасных Урадаў, але калі гэтага зрабіць немагчыма, дык просім паведамляць нас прыватна (асабіста каторы-небудзь сябра Валасной Рады) на адрэс наступны: „Беларускі Студэнскі Саюз“ — Вільня, вул. сьв. Ганны № 2.

За Старшыню (—) *Я. Ермаковіч.*

Сэкрэтар (—) *Ст. Станкевіч.*

Вільня, 6-VIII-28.

## Усе быўшыя жалезнадарожнікі могуць быць прыняты на службу.

Польскае міністэрства камунікацыі выдало распараджэньне з 14 чэрвеня г.г. № 1/11228/2/28, у якім паведамляе зацікаўленых, што будзе прымаць на службу на калеі тых з б. жалезнадарожнікаў, якія ня прыняты з браку мяйсцоў. Гэта справа ёсьць вельмі важнаю для ўсіх б. жалезнадарожнікаў, якія служылі на расейскіх чыгунках і якія павінны складаць заяву аб прыняцьці іх на службу ў Дырэкцыю Жалезных Дарог.

У заяве трэба падаць: 1) Імя і прозьвішча, 2) год нараджэньня, 3) мейсца пражыцьця, 4) калі ўступіў на службу, 5) ці служыў як штатны, ці як кантрактовы, 6) дзе служыў, 7) калі пакінуў службу, 8) ад якога часу быў сябрам эмэрытальнага фонду, 9) ці стараўся аб эмэрытуры, колькі разоў і з якім вынікам.

---

„Ды я душою ажываю,
Як вокам мысьлі аглядаю,
Цябе мой луг і бераг родны“.

Колас ужывае вельмі сакавітых параўнаньняў, апісваючы родную прыроду. Ён бярэ гэтыя параўнаньні з жыцьця людзкога, або з багатых праяваў натуры.

„Зашэпчуць краскі між сабою,
Нібы дзяўчаткі маладыя“,

кажа поэт. Зьвернем тут увагу на ўжытае для апісаньне красак, найпрыгажэйшае аздобы лугу, тое, што зьяўляецца найпрыгажэйшым у людзкім жыцьці — маладых дзяўчатак — як добра адзін абраз дапаўняе другі.

„Елкі смутныя бы ўдовы“ —

іяноў маем цэлы абраз,

„Як дзьве старэнькія кабеткі,
Стаялі дзьве вярбы старыя“...

„Раскошна нівы красавалі,
А ў іх мільёны красак зьялі,
Як-бы на небе тыя зоркі,
Лужкі, дарогі і пагоркі“...

„Пчолы сьпяваюць хорам, як анёлы“...
„Як закаханая дзяўчына
глядзіцца пышная вярбіна
у люстра водаў рэчкі“.

Сама прырода жыве, думае і адчувае, мае свае сымпатыі і антыпатыі.

„Ветрык з з калоскамі вядзе прыемную
размову“.

„Адзеньне хмары пазьнімалі
і самі леглі спаць на ночку,
адзеўшы лёгкую сарочку“ —

— у летні вечар, калі ціха і цёпла кругом. „Вецер умее быць сталым і маўчаць“, „вецер, дрэва і ручаёк вядуць гутарку паміж сабою, а крумкач любіў падслухаць іх гаворку і сам нават зрэдка ўстаўляў сваё мудрае слова“, „вецер і ручаёк палюбілі — кажа паэт — адзінокае дрэва; па гэтай прычыне, ніколі ня было згоды між ветрам і ручайком“, „вецер часта-часта прылятаў да дрэва, абымаў яго і сваімі пацалункамі асушаў раку з зялёнага лісьця яго“, і г. д. і г. д.

Як мы ўжо сьцьвердзілі, Колас вельмі поўна рысуе жыцьцё прыроды ўва ўсіх яго праявах. Усход і захад сонца, лес, дождж, рэчка — апісаны ім ува ўсіх порах году і так, што пры гэтым паэт знаходзіць новыя словы для адмаляваньня гэтых праяваў прыроды:

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб пераходзе на хутары

**(як даконваецца пераход са шнуроў на хутары).**

Ужо ня раз мы пісалі аб патребе якнайхутчэйшага пераходу са шнуроў на хутары. Карысьць гэтае ліквідацыі шнуравое гаспадаркі і зьвязанае з ею трохпалёўкі на шчасьце пазналі ўжо беларускія сяляне. У многіх воласьцёх і паветах сяляне дабіваюцца скарэйшага правядзеньня камасацыі, ці сцалкаваньня раскіданых у многіх мясцох шнуроў, якія дзеля свае вузкасьці не даюць тае карысьці, якую даць можа зямля, сабраная ў адзін кусок. На ім гаспадар не залежыць ад другога, ад усіх сваіх суседзяў і здоляе рабіць на ім усё, што яму спадабаецца, патрапіць павесьці гаспадарку так, як найлепш умее.

Але яшчэ хучей пайшла-б ліквідацыя шнуроў, калі-б сяляне нашыя ведалі, ў які спосаб даконваецца гэты пераход, якім чынам кожны селянін за свае шнурочкі атрымлівае зямлю ўцалку. Нашыя чытачы ня раз зьвярталіся да рэдакцыі з гэтым пытаньнем, на якое мы адказвалі паасобна. Цяпер падаём да ведама ўсіх з мэтай заахвоціць усіх да пераходу на хутары.

*Хто можа пераходзіць на хутары.*

На хутары могуць пераходзіць сяляне вёсак і гарадоў, якія маюць сваю зямлю ў шнурох, раскіданых у многіх мясцох паміж шнурамі (палоскамі) сваіх суседзяў.

*Як прыступаць да сцалкаваньня шнуроў.*

Каб перайсьці на хутары, трэба падаць да Зямельнага Камісара заяву, ў якой трэба прасіць яго аб пераводзе сялян усяе вёскі, ці мястэчка на хутары. Да гэтае заявы далучаюцца два сьпіскі: 1) сьпісак тых сялян, якія просяць пераводу на хутары і якія падпісваюць заяву (за неграматных падпісвае граматны), найлепш у прысутнасьці войта, каб гэты мог пасьведчыць подпіску.

У гэтым сьпіску трэба падаць колькасьць зямлі ў дзесяцінах, якую мае на праве ўласнасьці кожны селянін, абазначаны ў сьпіску. У другім сьпіску трэба сьпісаць усіх сялян вёскі па імю і прозьвішчу таксама з прыблізным паказаньнем колькасьці дзесяцін зямлі, якую кожны мае.

У самай заяве таксама трэба напісаць, колькі зямлі маюць тыя сяляне разам, якія падпісваюць заяву, ці просьбу аб пераводзе іх са шнуроў на хутары.

*Закон аб сцалкаваньні шнуроў не вымагае большасьці* тых, што хочуць хутароў, ці большасьці зямлі. Каб вёска была пераведзена на хутары трэба толькі аднаго: *ў гэтай вёсцы, ці горадзе, якая-б вялікая яна ня была, жадаючыя хутароў павінны мець разам толькі 25*—дваццаць пяць—дзесяцінаў зямлі. Ці гэтыя 25 дзесяцінаў будуць належыць да 2, ці 3, ці 5 гаспадароў, для закону і ўладаў, што вядуць сцалкаваньне зямлі, ніякога значэньня ня мае.

*Заява аб пераводзе на хутары не аплачваецца гербавым зборам.*

Зямельны Камісар, атрымаўшы заяву аб пераводзе на хутары з паказанымі вышэй двома сьпіскамі, прыяжджае на месца, да вёскі і цераз войта або солтыса (сельскага старасту) склікае сход. На гэтым сходзе Зямельны Камісар спраўджае, ці сапраўды падпісаўшыяся пад заявай сяляне падпісвалі яе, ці гэта іх уласнаручныя подпісы і, атрымаўшы пацьверджэньне гэтага, аб'яўляе сабраўшымся сялянам, што, згодна з законам 31 ліпня 1923 году аб сцалкаваньні грунтаў, прыступае да пераводу вёскі са шнуроў на хутары.

---

„Тымчасам сонейка з-за лесу,
Зьняло цямраную завесу:
Праменьні, стрэлы залатыя,
Макушкі лесу прабіваюць
І блескам, зьяньнем высьцілаюць
Нябёсаў багны патайныя“ —

гэта вясеньні абраз усходу сонца.

„Яшчэ ня раз у часе жніва,
Дзяньніца зоймецца шчасьліва,
І ў ясным блеску і ў красе
Ад'бьюцца хораша ў расе
Яе кароны агнявыя.
У пасмы косы залатыя
Скрозь шоўк нябёс ружова-белы
Рассыплюць радасныя стрэлы,
Бы ліры божай тыя стрункі,
Бы тыя чары-пацалункі
На вуснах шчырага каханьня
У патайны часок спатканьня“ —

гэта малюнак летняга ўсходу.

А вось малюрак летняга ранку, колькі ў ім красы і моцы:

„А тая ранічка на полі
У часе летняга расквету!
Эх, выйдзі ў поле, брат, да сьвету;
Ня будзеш каяцца ніколі.
Зірні, прыслухайся наўкола;
Як ціхамірна, як вясёла!
І ў кожным дрэве і ў былінцы,
І ў малюпасенькай расьлінцы
Ну, ўва ўсім чысьценька, да званьня,
Блукае радасьць спадзяваньня,
Куды ні глянь — усё ў настрою
І ў добрай згодзе між сабою.
Само паветра жыва, дыша
Бы ў ім хто хвалю жыцьця піша
Праменна сьветлы яснавокі,
І гаснуць — нікнуць ночкі змрокі“.

А далей ізноў аб усходзе сонца.

„Усход жыве, гарыць, пылае
Слупы — праменьні падымае
Бы тыя рукі блаславеньня
У часе шчырага маленьня.
І вось яна жыцьця крыніца
Сама багіня-чараўніца,
Узашла на неба і мігнула,
Расу ў брыльлянты абярнула,
Глядзіць прыветна, ўсіх кахае
Па сьвеце стрэлы рассыпае
І песьціць шчыра, ўсіх, як матка...

(*Працяг будзе*).

*С.*

Ніякага галасаваньня, ці сяляне хочуць хутароў, ці ня хочуць, ніякага дапрашваньня сялян ня бывае, бо закон выразна гаворыць, што па просьбе аб пераводзе на хутары ўласьнікаў 25 дзесяцінаў зямлі гэты перавод даконваецца, нават паміма згоды на яго ўсіх іншых сялян.

Зямельны Камісар аб'яжджае граніцы поля вёскі, здымае малы плян гэтага поля і прадстаўляе праект у Акружны Зямельны Урад. Гэты Урад на яўным паседжаньні зацьвярджае праект Зямельнага Камісара.

Аб дню паседжаньня павядамляюцца сяляне і яны могуць быць прысутнымі на паседжаньні і могуць складаць свае просьбы, як тыя, якія прасілі хутароў, так і праціўная старана.

У 30 дзён пасьля ўтвярджэньня праекту Зямельнага Камісара аб пераводзе вёскі на хутары ў гэтую вёску прыяжджае Зямельны Камісар дзеля выбараў Рады, якая праводзіць сцалкаваньне грунтаў і зьяўляецца вельмі важным ворганам.

Разам з выбарам Рады Зямельны Камісар правярае, колькі зямлі мае кожны селянін, дзеля чаго ізноў склікае сход. У выпадку, калі на гэты сход ня прыдзе палова ўсіх сялян, уласьнікаў гаспадарак, ці зямлі, або іхніх прадстаўнікоў, Зямельны Камісар можа сам вызначыць Раду (яе будзем называць Хутарнай Радай). Хутарная Рада выбіраецца ў складзе 3 ці 5 чалавек сялян тае вёскі, якая пераходзіць на хутары.

*Правы і абавязкі Хутарнае Рады.*

Хутарная Рада зьяўляецца ворганам, які выступае ад імя ўсіх учасьнікаў сцалкаваньня ў справах пераходу на хутары.

Хутарная Рада;

1) робіць кантракт з інжынерам геометрам, які праводзіць памеры грунтоў і падзел на хутары за грошы.

2) даконвае падзелу супольных пасьцьбішчаў, лесу і др. або ўстанаўляе спосаб карыстаньня з іх.

3) выбярае экспэртаў (знаўцаў) для ацэнкі зямлі, якая ацэньваецца абавязкова і гэтая ацэнка мае вялікае значэньне для ўсіх сялян.

4) заступае і прадстаўляе ўсіх учасьнікаў сцалкаваньня перад уладамі і судамі ўва ўсіх справах, якія зьяўляюцца пры сцалкаваньні.

5) робіць раскладку грошай за работу для інжынера і зьбярае гэтыя грошы.

6) вызначае сялян на работу пры інжынеры, дае яму падводы і выконвае ўсе справы адміністрацыйна-гаспадарчага характару пры сцалкаваньні.

Хутарная Рада абавязана даваць усе выясьненьні сваім суседзям, быць пасярэднікам паміж імі а інжынерам і ўладамі ў справах сцалкаваньня, яна павядамляе ўчасьнікаў сцалкаваньня аб ходзе работы і стараецца правесьці перавод на хутары такім спосабам, каб было якнаймenш нездаволеных.

Ужо з пералічэньня дзейнасьці Хутарнае Рады відзім, што яна мае вялікія правы і дзеля гэтага ў Раду трэба выбіраць талковых, разумных і граматных сялян.

Адной з важнейшых чыннасьцяў Хутарнае Рады зьяўляецца дагавор з інжынерам, які мерае зямлю і дзеліць яе на хутары. Рада мусіць старацца не пераплаціць інжынеру *і абавязкава ў кантракце забавязаць яго выканчыць надзел і паказаць хутары не пазьней месяца жніўня, а гэта дзеля таго, каб на новых хутарох сяляне ўсьпелі прыгатовіць зямлю пад пасеў жыта і ў пару жыта засеяць.*

### Расцэнка зямлі.

Расцэнка, ці ашацаваньне зямлі зьяўляецца такою важнаю справаю, што ад таго, ці добра зямля пацэнена, залежыць справедлівы надзел. Бо пры благой расцэнцы многія могуць аказацца пакрыўджанымі.

Справа ў тым, што ўвесь надзел на хутары даконваецца паводле ацэначнага прынцыпу, гэта значыць: уся зямля вёскі ацэньваецца на пэўную суму грошай, а разам з гэтым выводзіцца ацэнка зямлі кожнага гаспадара і ўжо ён атрымоўвае хутарнае зямлі на такую суму, якую варта яго зямля ў шнурох паводле ацэнкі яе, зробленай знаўцамі пры ўдзеле Хутарнае Рады. Знаўцаў гэтых, ці экспэртаў, або ацэншчыкаў запрашае Хутарная Рада з паміж сялян суседніх вёскаў. Сяляне гэтыя ня могуць быць блізкімі сваякамі ўчасьнікаў сцалкаваньня.

Пры ацэнцы ацэншчыкі павінны прымаць пад увагу ўраджайнасьць грунту і мусяць праводзіць ацэнку так, каб грунт мала слабейшы ад іншага ня быў ацэньваны вельмі танна ў параўнаньні з тым, які прызнаны троха лепшым. Звычайна ацэншчыкі дзеляць увесь грунт (зямлю) на некалькі катэгорыяў, ці сартоў: вельмі добры, добры, сярэдні, слабейшы і слабы — пры гэтым пяскі, дзе нішто не расьце і балоты без ужытку пад увагу не бяруцца. Дзеля гэтага, што па большай часьці ў нас у граніцах поля аднае вёскі грунты больш-менш роўныя, выключаючы пяскоў і бескарысных балотаў, якія не даюць травы, дык найчасьцей розьніца зямлі залежыць ад таго, ці яна была добра дагледжана і гноена, ці не. Гэтак далейшыя ад вёскі землі найчасьцей бываюць мала гноены і яны ялавеюць. Дзеля гэтага, калі прыняць, што ў вёсцы няма такое зямлі, якая надавалася-б пад агародніну, няма чарназёму, тады благая будзе такая ацэнка, якая падзяліла зямлю на нейкіх 6 сартоў у такой цане. 200 злотых, 100, 50, 30, 20 і 10 за дзесяціну. Трэба ведаць, што ацэньваюць зямлю толькі на ўжытак і патрэбу сцалкаваньня і таму прымаюць такія цэны за дзесяціны, за якія ведама зямлі ніхто не прадае. Але гэтыя цэны патрэбныя толькі для правядзеньня хутароў.

I вось пры такой ацэнцы 1 сорт 200 зал., 2 сорт 100 зал., 3-ці сорт 50 зал., 4-ты сорт 30 зал., 5-ты сорт 20 зал. і 6-ты сорт 10 зал. аказжацца вельмі благая рэч, бо многія сяляне атрымаюць малыя хутары, а другія вельмі вялікія. Гэтыя другія разбагацеюць коштам першых. Бо ведама, што няма ў нас такіх сартоў зямлі на абшары аднэй вёскі, каб адзін сорт быў у 20, ці 15 разоў дарожшы ніж другі. Але таксама ведама і тое, што зямля не аднолькавая, толькі розьніцы паміж ею ня такія вялікія. I таму лепшая ацэнка была-б прыблізна такая: 1 сорт—200 зал., 2 сорт—150 зал., 3-ці сорт—120 зал., 4-ты сорт—100 зал., 5-ты сорт—80 зал. і 6-ты сорт—40 зал., або 1 сорт—100 зал., 2 — 80 зал., 3-ці — 70 зал., 4 сорт—60 зал., 5 сорт—40 зал. і 6 сорт—30 зал. за дзесяціну. Пры такой ацэнцы ня будзе гэтулькі пакрыўджаных і такое розьніцы ў колькасьці атрыманых дзесяцінаў.

Звычайна вельмі дорага цэніцца зямля пры сялібе і танна расцэньваюцца далейшыя грунты, а пасьля выходзіць тое, што адны маюць блізка сялібы малыя хутары, а тыя сяляне, якія ўзялі хутары далей, атрымоўваюць шмат больш зямлі, ніж мелі перад гэтым. Тымчасам зямля далейшая мала горшая, ніж тая, якая знаходзіцца блізка вёскі. Пры ацэнцы могуць быць усе учасьнікі і яны павінны глядзець. каб ня было несправядлівае ацэнкі, бо пасьля будзе нарока на ўсё жыцьцё і вельмі цяжка паправіць памылкі ацэнкі, а то і зусім нельга гэтага зрабіць. Трэба прыняць за правіла: *як найменш сартоў і як найменшая розьніца ў цане іх.*

*Саўліч.*

(Працяг будзе).

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Скарб у зямлі.

7 жніўня г. г. ў вёсцы слабодка, Тургельскай вол. Віленскага пав. адкапалі ў старым кургане два гаршкі старых сярэбраных манэтаў. Відаць у даўныя часы на месцы кургана была там людзкая сяліба. Далейшыя раскопкі будзе вясьці ўлада.

### Паўночныя таргі і выстаўка ў Вільні.

Паўночныя таргі і выстаўка адчыняцца 18 жніўня г. г. ў суботу. Выстаўка будзе вельмі багатай і цікавай, судзячы па тым, што ўжо цяпер зроблена на пляцу выстаўкі. Паміж іншым у аддзеле табачнага промыслу адумысныя машыны будуць на вачах публікі рабіць папіросы. Ужо прыбылі матар'ялы і тавары ра выстаўку з заграніцы.

### Выезд б. эс-эра Я. Мамонькі ў Латвію.

Язэп Мамонька, які называў сябе лідэрам эс-эраў беларускіх і прабываў у Вільні ад восені 1926 году, выехаў 7 жніўня г. г. на жыцьцё ў Латвію.

### Рэарганізацыя Беларускага Гаспадарскага Зьвязу.

25 ліпня на адбыўшайся зборцы сяброў Бел. Гаспад. Зьвязу, пасьля рэфэратаў аб працы арганізацыі, адбыліся перавыбары Ураду Т-ва.

У Цэнтральны Урад абраны: старшыня інж. М. Гузоўскі, віцэ-старшыні: — Ю. Мурашка і д-р. Я. Станкевіч, сэкратар — А. Коўшыха, сябры Ураду — А. Астроўская, М. Станкевіч і М. Вінцукевіч.

Статут Беларускага Гаспадарчага Зьвязу зацьверджаны на ўсю Рэчпаспалітую.

### Няўдзячнасьць.

Асыстэнт унівэрсытэту, магістр праў Сэверын Выслаух, вучыцель гісторыі ў Віленскай Беларускай Гімназіі, які многа памог у справе першай матуры з правамі для беларускіх гімназіяў і які аддаўна вельмі прыхільна адносіцца да беларусаў, не закантрактаваны Таварыствам Беларускае Школы на наступны школьны год на пасаду вучыцеля.

Лічым гэты крок Т-ва памылковым, бо, як ведаем, гр. Выслаух здабыў сабе сымпатыі вучняў Беларускае Гімназіі і многа працаваў для іхняга дабра.

### Перарыў у выхадзе „Беларускай Крыніцы“.

„Беларуская Крыніца“, часопісь Беларускае Хрысьціянскае Дэмократыі на час палявых работ сялянства выходзіць толькі два разы ў месяц.

### „С а х а“

Пасьля часовага спыненьня ізноў выйшаў з друку першы беларускі месячнік сельскае гаспадаркі „Саха“ № 4-8 (14-15) пад рэдакцыяй і выдавецтвам А. Уласава пры галоўным супрацоўніцтве грам. У. Павалковіча.

Рэдакцыя „Сахі“ заклікае чытачоў і падпішчыкаў, як роўным чынам усіх прыхільнікаў адраджэньня сельскае гаспадаркі ў нашай старонцы да падтрыманьня падпіскаю, кааптаваньнем новых падпішчыкаў, парадамі і г. д.

Зьмест часопісі: Недахопы нашае вясковае гаспадаркі. Машынізацыя вясковае гаспадаркі. Ад чаго зводзяцца цэнныя сарты збожжа. Што можа нам даць сэлекцыя расьлін. Выраб поля перад севам жыта. Гадоўля насеньня лугавых траў. На што трэба зьвярнуць увагу пры жывёлагадоўлі. Як ратаваць уздутую карову. Дамавая аптэчка земляроба. Прышчэпка дзічкаў. Грамаатводы на вёсцы. Гаспадарчыя парады. Парады для гаспадынь. Пошта.

Зьмест, як бачым, вельмі цікавы для вясковага гаспадара, а форма кніжкі ў 32 старонкі надаецца для бібліятэчак.

Кніжку можна набыць ува ўсіх беларускіх кнігарнях. Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, вул. сьв. Ганны 2-3.

## Апошнія навіны.

Найважнейшым выпадкам у Польшчы за ўбеглы час зьяўляецца намер пераляцець на аэраплянe цераз акеан у Амэрыку. Маёры лятуны Кубаля і Ідзікоўскі падняліся ў пятніцу 3 жніўня з лятніска Буржэ пад Парыжам і выляцелі ў напрамку да Амэрыкі цераз Азоры. Меліся пераляцець каля 7.200 вярстоў.

Ад пятніцы аж да раніцы нядзелі ўсе ў Польшчы і нават заграніцай былі заняты думкай: удасца, ці ня ўдасца даляцець адважным польскім лятунам. У Амэрыцы былі ўжо робляны прыгатаваньні на спатканьне шчасьлівых і адважных Кубалю ды Ідзікоўскага. Яны меліся прабыць у паветры 47 гадзінаў і за гэты час прыбыць у Нью-Ёрк.

Аднак падарожа ня ўдалася дзеля таго, што перастала даходзіць смазка да машыны, і яна магла загарэцца ды спаліць абодвух лятуноў. Кубаля ды Ідікоўскі праляцелі больш ніж 3000 вярстоў і павярнулі назад, углядзеўшы, што сапсавалася трубка, па якой аліва для смазкі матору дацякала да яго. Ад гэтага машына вельмі награвалася і гразіла ўзрывам.

Гэта змусіла Кубалю і Ідзікоўскага павярнуць назад, каб з ветрам ляцець у Эўропу. Не даляцеўшы 500 вярстоў да берагу Эўропы, лятуны былі змушаны асесьці на мора і ратавацца ўплаў, кідаючы машыну. На шчасьце недалёка плыў нямецкі параход „Самос“, які і выратаваў лятуноў. Цяпер яны ўжо ў Парыжы. Аэраплян таксама ўратаваны, хоць пры спаданьні сапсаваўся.

**Літва** у выніку разрыву польска-літоўскіх перагавораў аказалася ў палажэньні, як кажуць, горш „губэрнатарскага". Нават Нямеччына, якая дагэтуль падтрымлівала Літву, цяпер цераз свайго пасла ў Коўне, дала пазнаць, што паступкі і захаваньня літоўскага ўраду зьяўляецца пагрозай для спакою на ўсходзе Эўропы. Тактыка Польскае дыпляматы спатклася з сымпатыяй усіх краёў. Літоўска-польскія перагаворы пачаліся ў Крулеўцы, заканьчэньне іх таксама мае адбыцца ў гэтым месяцы. Польшча запрапанавала Літве сабрацца на конфэрэнцыю 30 жніўня, каб закончыць справу перагавораў перад сабраньнем Рады Лігі Народаў у верасьні месяцы.

Апошнія галасы літоўскіх газэтаў паказваюць, што ў Літве здаюць сабе справу з павагі палажэньня і гавораць аб уступках і неабходнасьці дагаварыцца з Польшчай.

**С. С. С. Р.** А ў Расеі, пад бальшавікамі ізноў старая бяда.—Зусім паважна пагражае Расеі голад. Ужо цяпер бальшавікі ня толькі не вывозяць збожжа за граніцу, але купляюць ува ўсіх краёх, бо свайго ўраджаю ня хваціць да новага хлеба. А перад вайною Расея высылала сваю пшаніцу і жыта ўва ўсе краі ня толькі Эўропы, але і ў другія часьці сьвета.

Прычынаю няўраджаю і зближаючагася ў Расеі голаду зьяўляецца пераважна тое, што сяляне ня хочуць засяваць поля. А дзеецца гэта дзеля таго, што бальшавікі забіраюць у сялян увесь ураджай, не пазваляюць прадаваць збожжа па рынкавых цэнах і гэткім чынам адбіваюць усялякую ахвоту да працы.

Голад у Расеі, якая слушна называлася жытніцай усяе Эўропы, зьяўляецца найлепшым доказам, чаго вартая бальшавіцкая гаспадарка і бальшавіцкія парадкі.

Савет Народных камісараў пастанавіў, каб як найбольшая плошча поля была засеяна на зіму. Дзеля правядзеньня гэтага ў жыцьцё вызначаны спэцыяльны дыктатар камуніст Орджонікідзэ, які мае вельмі вялікія поўнамоцтва і нават нібы не падпарадкуецца ў галіне засеўнае кампаніі бальшавіцкай чаке (Г. П. У.).

Гэта мае азначаць, што засеўны камісар будзе сілай змушаць сялян да засеву зямлі. Але ці ўдасца яму яго місыя, згадаць трудна. Найхутчэй, што не, бо сяляне ня маюць на засеў збожжа і наўрад ці ўдасца камуністым здабыць яго столькі, каб усё поле засеяць.

---



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3